


СПАДАРОЖНІКАВАЕ!
● БТ, РТР, Астанкіна, НТБ С.-Пецярбург, Польшча-1, Польшча-2.



*Калі да 15 верасьня прэзідэнт не адменіць свае антыканстытуцыйныя ўказы, парламант можа ўзьняць пытаньне аб імпічмэньце.*

*– ст.2*

*Паўстагоддзя ён змушаны быў утойваць свой удзел у абароне Варшавы і знаходжаньне ў нямецкім палоне.*

*– ст.7*



Апанас Цыхун перад вайной.




31 жніўня і 1 верасьня чакаецца пераменная хмарнасьць без ападкаў. Вецер паўднёва-усходні і ўсходні, 5-10 м/сек. Тэмпература ўначы 7-12, удзень - 22-27 градусаў.

# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА У 1920 г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

*№ 35 (182) • 30 жніўня — 5 верасьня 1996 • Кошт свабодны*

## ЛЁС ДЫКТАТАРАЎ

**Сеўльскі крымінальны суд прыгаварыў да сьмяротнага пакараньня былога прэзідэнта Паўднёвай Карэі Чон Ду Хвана і да 23,5 гадоў турмы ягонага пераемніка Ро Дэ Ву. Абодва былі прызнаныя вінаватымі ў дзяржаўным пераварoце, жорсткім разгоне дэманстрацыяў моладзі і незаконным набыцьці маёмасьці пад час выкананьня службовых абавязкаў.**




## ПРОЙГРЫШ РЭЖЫМУ НА МІЖНАРОДНЫМ УЗРОЎНІ

**23 жніўня Дзярждэпартамант ЗША даў палітычны притулак на неабмежаваны тэрмін лідару БНФ З.Пазьняку і прэс-сакратару БНФ С.Навумчыку.**

Прэзідэнцкія структуры Беларусі рознымі метадамі імкнуліся не дапусьціць гэтага прызнаньня, але, як бачым, тут улады прайгралі. Магчыма яны, заклапочаныя ўнутрыдзяржаўнымі ды асабістымі праблемамі, не ўсьведамлялі важнасьці гэтай падзеі на міжнародным узроўні.

Гэтым крокам Дзярждэпартамант паказаў, што Беларусь з гэтага часу лічыцца недэмакратычнай дзяржавай, у ёй пераследуюць за палітычныя погляды. Звычайна з такімі таталітарнымі краінамі не жадаюць мець справы ні бізнесмэны, ні палітыкі. Сябраваць з намі паважаючай сябе краіне стане проста ганебна.

## ПІКЕТАВАНЬНЕ ПРАКУРАТУРЫ

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" у сераду 28 жніўня правёў пікетаваньне будынку пракуратуры Рэспублікі Беларусь. Акцыя была арганізаваная ў падтрымку "палітыкаў, якіх пераследуе рэжым".

**Людвік ВАЛЫНЕЦ.**

## СТРАЙК НА РЫНКУ

**У сераду ў Менску не працаваў ніводзін кірмаш.**

У 11.30 на стадыёне "Дынама" адбыўся сход прадпрымальнікаў горада. Яны патрабавалі скасаваць рашэньне Менгарвыканкаму N 584, паводле якога ўведзены неверагодна высокія стаўкі падаткаў.

Прадпрымальнікі былі абавязаны аплаціць павышаныя падаткі "заднім тэрмінам". Але арэндатары гандлёвых месцаў ня ў стане заплаціць 1 млн. 800 000 рублёў за права папрацаваць 8 дзён у месяц у сувязі з нізкай рэнтабельнасьцю гандлю, выкліканай, у сваю чаргу, нізкай пакупніцкай здольнасьцю насельніцтва.

Увядзеньне такіх драконаўскіх мераў можа прывесьці да паралюшу прыватнага гандлю ў сталіцы. Пад час акцыі пратэсту быў прыняты зварот да мэра Менску сп.В.Ярмошына.

Наступны мітынг, на які ўжо запрошаны прадстаўнікі палітычных партыяў і розных галінаў улады, прызначаны прадпрымальнікамі менскіх рынкаў на 1 верасьня.

**Людвік ВАЛЫНЕЦ.**

## ЧОРНЫ СЬПІС ДЛЯ БІЗНЕСМЭНАЎ

Чыноўнікі ў аблвыканкаме амаль тэатральна хапаліся за галовы, калі чулі пра перарэгістрацыю суб'ектаў гаспадараньня. У адпаведнасьці з Указам Прэзідэнта, усю гэтую катаржную працу трэба было выканаць ім. У вобласьці ж каля 32 тысячаў прадпрыемстваў, арганізацый, фірм, прыватных прадпрымальнікаў.

І вось кіраўніцтва аблвыканкаму падрыхтавала праект рашэньня, што перарэгістрацыяй, а таксама рэгістрацыяй суб'ектаў гаспадараньня зоймуцца раённыя і гарадзкія выканаўчыя камітэты. Там ужо ствараюцца адпаведныя камісіі, якія "прафільтруюць" інфармацыю аб усіх фірмах на сваёй тэрыторыі: ці былі папярэджаньні ад пажарнай службы, міліцыі, статыстыкі і (самае галоўнае) падатковай інсьпекцыі. Тады і будзе мясцовая ўлада вырашаць лёс суб'екта гаспадараньня: перарэгістраваць ці не перарэгістраваць.

Прычым, тых, хто вельмі "праштрафіўся", загадана не пускаць ня толькі ў заснавальнікі, але нават і ў сузаснавальнікі...

**М.ВАСІЛЕВІЧ.**

## "СИЛЫ ЕСТЬ - НАДО НАВАЛИТЬСЯ!"

**"Вертыкаль" пачала выконваць распараджэньне прэзідэнта аб падрыхтоўцы і правядзеньні рэферэндуму 7 лістапада.**

На мінулым тыдні ў Гарадзенскім аблвыканкаме прайшла высокая нарада з удзелам усяго абласнога



Вертыкаль перад маршам

начальства, а таксама старшынь і намесьнікаў старшынь гарадзкіх і раённых выканаўчых камітэтаў. Перад прысутнымі з дакладам выступіў намесьнік начальніка Упраўленьня арганізацыйнай і кадравай работы аблвыканкаму Мікалай Прысада. Ён заявіў, што станоўчы вынік рэферэндуму стане вотумам даверу прэзідэнту. І з гэтага пункту гледжаньня будзе ацэньвацца праца мясцовай "вертыкалі". Таму ўсім раённым і гарадзкім кіраўнікам прапанавана не пакладаючы рук шчыраваць на "ідэалагічнай пасяўной".

Па словах М.Прысады, найважнейшую ролю ўлады надаюць своечасовай выплаце ў бліжэйшыя месяцы зарплаты, стыпендый і пеньсій, каб у людзей было менш прычын для незадавальненьня. Як і ў застойныя гады, пад час падрыхтоўкі рэферэндуму апірышчам уладам у масавай агітацыйна-палітычнай працы будуць служыць працоўныя калектывы. Тут рэкамендавана неадкладна стварыць рабочыя групы з ліку правераных і надзейных кадраў. Аб складзе групаў, тэлефонах - інфармаваць насельніцтва. Названыя вышэй рабочыя групы зоймуцца, дарэчы, і падрыхтоўкай так званага Беларускага нацыянальнага кангрэсу, якому адводзіцца роля "народнага веча" па падтрымцы прэзідэнцкага рэферэндуму. Кангрэс павінен адбыцца ўжо ў сярэдзіне верасьня, таму часу ў "вертыкалі" застаецца вельмі мала. Тым болей, што трэба пастарацца, каб у дэлегаты трапілі толькі актыўныя прыхільнікі прэзідэнта.

Дакладчык заўважыў, што ў аблвыканкаме, каб забясьпечыць перамогу на рэферэндуме, стварaецца новая структурная адзінка. Гэта ўпраўленьне, у якое ўвойдуць сьпецыялісты па друку і інфармацыі, рабоце з моладдзю, справах рэлігій. У гарадзкіх і раённых выканкамах рэкамендавана ўвесьці пасады намесьнікаў старшыняў па ідэалогіі і стварыць адпаведныя аддзелы. Словам, ствараецца яшчэ адна "вертыкаль", - ідэалагічная, якая нагадвае пра сумна вядомыя аддзелы прапаганды і агітацыі, што існавалі пры парткамах.

Новай "вертыкалі" трэба будзе прааналізаваць вынікі парламанцкіх выбараў мінулага году ў сваіх раёнах. Папрацаваць з палітычнымі партыямі і грамадзка-палітычнымі рухамі. Кагосьці пастарацца прыцягнуць на свой бок, апазіцыю - нейтралізаваць. Калі ж у шэрагах самой "вертыкалі" будуць выяўлены антыпрэзідэнцкія настроі, то такім работнікам лепш пашукаць іншую працу. Гэта ж тычыцца і гаспадарчых кіраўнікоў.

Дапоўніў дакладчыка старшыня аблвыканкаму А.Дубко. У адносінах да рэферэндуму ён сказаў: "Что мы посеем, то и пожнём!" Гэта можна было зразумець так, што асабісты лёс многіх прадстаўнікоў "вертыкалі" будзе залежаць ад таго, ці падтрымаюць на месцах людзі прэзідэнцкі рэферэндум. І прысутныя ў зале гэта цудоўна зразумелі. Як сказаў адзін з "вертыкальшчыкаў": "Силы есть - надо навалиться!"

Такім чынам, ідэалагічная "пасяўная" распачалася. "Дажынкі" будуць 7 лістапада.

**Р.АНТАНОЎСКІ.**

## КАНСТЫТУЦЫЯ – НЕ ДЛЯ БЕЛАРУСАЎ?

У гарадзенскай школе-гімназіі №30 у новым навучальным годзе ня будзе ніводнага беларускага класа. Кіраўніцтва школы праігнаравала заявы бацькоў дзесяці будучых першакласьнікаў, жадаўшых, каб дзеці вучыліся ў беларускамоўным гімназійным класе, і адзінаццаці бацькоў – у агульнаадукацыйным. І гэта ў краіне, Канстытуцыя якой гарантуе права навучацца на роднай мове.

## ДАГЛЯДЗЯЦЬ ЧУЖЫЯ...

На баланс аддзелу адукацыі Кастрычніцкага раёну перададзены дзіцячы садок АТ "Гроднаабутак". "Абутнікі" ня маюць сродкаў, каб самім утрымліваць сваіх дзяцей. У садку цяпер будзе створаны філіял СШ N 17. Вучыцца тут будуць дзеці пачатковых класаў з недахопамі ў псіхічным і разумовым разьвіцьці з дапаможнай школы N 4.

**Вінцук МАЛЬСКІ**

**Ініцыятыўная група былых работнікаў завода "Радыёпрыбор" спрабуе дамагчыся ад мясцовых уладаў адхіленьня ад пасады дырэктара вытворчага аб'яднаньня "Радыёхваля" сп.Герасіменкі.**

## АВАРЫЯ

У віну яму ставяцца масавыя звальненьні рабочых і былых кіраўнікоў вытворчасьці завода "Радыёпрыбор". За часы кіраўніцтва сп.Герасіменкі (з 1992 году) чатырохтысячны калектыў завода "Радыёпрыбор" скараціўся да некалькіх сотняў. Многія выкінутыя на вуліцу людзі засталіся амаль бяз сродкаў для існаваньня.

Неадназразовыя звароты прадстаўнікоў працоўнага калектыву ў розныя інстанцыі з патрабаваньнем адхіліць сп.Герасіменку ад пасады сканчаліся адным і тым жа адказам: "Некоторые факты имеют место... Исполком считает, что директор завода соответствует должности" (ліст гарвыканкаму ад 5.11.1993.).

Пакідаючы гэтыя факты без увагі і тым самым, на думку сяброў ініцыятыўнай групы, патураючы сп.Герасіменку, улады закрылі вочы нават на сьмерць чалавека ў выніку дарожна-транспартнага здарэньня з удзелам дырэктара былога "Радыёпрыбора". Як гаворыцца ў лісьце "группы работников завода "Радиоприбор"" да старшыні Дзяржкампрама Беларусі У.Куранкова, у ліпені 1993 году сп.Герасіменка "...Находясь за рулём служебного автомобиля... не имея на то права... в простой ситуации не справился с управлением. В результате аварии погиб человек, дети остались сиротами". Пасьля ўсіх гэтых фактаў, на думку аўтараў ліста, "Герасименко не имеет морального права руководить..."

На нядаўняй сустрэчы А.Лукашэнкі з "грамадзкасьцю" Горадні ў прэзідыум была пададзена запіска з пералікам усіх выкладзеных вышэй фактаў. Разабрацца з гэтай справай прэзідэнт даручыў кіраўніцтву мясцовай "вертыкалі".

Учора адбылася сустрэча сяброў ініцыятыўнай групы з намесьнікам старшыні аблвыканкама сп.Пашкевічам, які ад імя выканаўчай улады ў чарговы раз паабяцаў "разабрацца".

**В.ДРЭМА.**

## ДОМ ДЛЯ МІЛІЦЫЯНТАЎ

21 жніўня гарвыканкам Горадні даў дазвол Упраўленьню ўнутраных спраў аблвыканкаму на прыцягненьне інвестыцый для працягу будаўніцтва 67-кватэрнага дома па вуліцы Курчатава. Дом будаваўся за сродкі Міністэрства ўнутраных спраў. Але фінансаў хапіла толькі на ўзьвядзеньне першых пяці паверхаў, пасьля чаго будоўля на доўгі час замерла.

**В.М.**

## СЫШЧЫКІ МОГУЦЬ СТАЦЬ БЕСПРАЦОЎНЫМІ

У Гарадзенскім абласным УУС чакаюць скарачэньня больш за 60 супрацоўнікаў. Сярод іх афіцэры крымінальнага вышуку, АБЭЗ, сьледчыя і іншыя. Пералічаныя службы заўсёды лічыліся станавым хрыбтом Міністэрства ўнутраных спраў. Нават, калі афіцэры скарачаліся ў вышэйшых кіруючых упраўленьнях, то за іх кошт умацоўваліся кадры на месцах: на раёнах і ўчастках. Сёньня афіцэраў можа чакаць поўнае звальненьне з працы.

"ПАГОНЯ" ўжо пісала пра тое, што цяперашняе МУС асноўны ўпор робіць на ўнутраныя войскі. Яны ўдала махаюць гумовымі дрынамі, але выкрываць тэхнічна ўзброеную, арганізаваную і карупцыйна прыкрытую злачыннасьць ня ў стане.

**С.С.**





## АДМІНІСТРАТЫЎНАЯ КАМІСІЯ ПРАКТЫКУЕ ЗАВОЧНЫЯ "ПРЫСУДЫ"

**У рэдакцыю "ПАГОНІ" зьвярнулася сталая кабета, якой ужо мінула 67 гадоў. "Жыву разам з сынам, - піша яна. - На дваіх маем у месяц 800-900 тысяч рублёў". Але не жабрацтва выклікала яе абурэньне ("...скаргамі тут не дапаможаш"), а тое, як з ёю абыйшліся мясцовыя ўлады.**

Маюць маці з сынам сабачку "*сярэдняга росту, дварнягу 7,5 гадоў, вельмі разумнага, прыгожага і добрага*". Ходзяць з ім гуляць у лес на ўскрайку Горадні ("*карысьць абаюдная*"). Каля месяца таму назад, увечары, пасьля такога шпацыру напаткаў сын міліцыянта, які склаў пратакол за выгул дварнягі без наморднікa і павадка ("*Ні разу ня бачыла дварняг у намордніках*", - дзівіцца пабачыўшая шмат чаго за свае 67 гадоў жанчына.



7 жніўня ў пасьляабедзенны час сын атрымаў па пошце позву зьявіцца ў адміністратыўную камісію Ленінскага райвыканкаму на 15.00 гадзін. Зразумела, што зрабіць гэта фізічнай магчымасьці ў яго не было. Сталі маці з сынам чакаць новай позвы на наступнае паседжаньне камісіі.

Аднак замест гэтага пошта 15 жніўня прынесла пастанову камісіі ад таго ж упамянутага 7 жніўня. У ёй паведамлялася аб налажэньні штрафу ў памеры 100 тысяч рублёў, а яшчэ ў пастанове было ўказана пра 10-дзённы тэрмін, пад час якога спагнаньне можа быць абскарджана. Пасьля 15-га выходзіла, што застаўся адзін дзень, і тое пятніца.

*"Вось і адчуваю я сябе, як аплёваная. Паступілі са мной не як з чалавекам, а як з быдлам. Што пра гэта думаюць юрысты? Ці магчыма было разглядаць справу ў адсутнасьць майго сына? Ці ня варта было абмежавацца на першы раз папярэджаньнем?"* - задае пытаньні Зоя Емельянаўна Сазонава, гаспадыня сабакі па мянушцы Ірма.

**Шаноўная З.С.! Рэдакцыя "ПАГОНІ" упэўненая, што Вас павінны былі своечасова выклікаць, уважліва выслухаць і строга не караць, калі нават на сьхіле гадоў Вы, альбо Ваш сын, сталі праварушальнікамі.**

**Раім Вам падаць скаргу пракурору.**

**Сяргей САМАСЕЙ.**

## ПАКІНУЛІ БЯЗ ПЕНЬСІІ

**Прапрацаваўшы на родную дзяржаву амаль 30 гадоў 65-гадовая Сьцефаніда Гнідко ня можа дамагчыся ад уладаў пеньсіі. Такі ж лёс можа напаткаць і яе мужа - Віктара Гнідко, які з 1968 па 1990 год уключна не вылазіў літаральна з балота, працуючы на меліярацыі. Абодва яны лічаць сябе ахвярамі рэпрэсіяў 80х-90х гадоў.**

Праблемы з уладамі дасталіся сям'і Гнідко, на іх думку, у спадчыну ад бацькоў. Бацьку Сьцефаніды Апалінараўны, як "сярэдняка", які не жадаў ісьці ў калгас, засудзілі на 10 гадоў турмы, а бацька Віктара Міхайлавіча быў бяльмом на воку партыйных чыноўнікаў, бо не хацеў уступаць у партыю. Недаспадобы ўладам было і тое, што муж і жонка Гнідко, жывучы ў вёсцы, не пайшлі ў калгас.

Сп.Сьцефаніда з 1961 па 1967 год працавала ў лясьніцтве, затым 7 гадоў у Скідальскай ПМК і з 1977 па 1990 год - рускавым рамонтнікам у Міжраённым упраўленьні асушальных і палівальных сістэмаў. Сп.Віктар пасьля службы ў войску і лячэньня атрыманай там цяжкай траўмы таксама падаўся ў меліярацыю. За гады працы абодва ніколі ня чулі папрокаў з боку кіраўніцтва і таму спадзяваліся, што старасьць сабе зарабілі дастойную.

У 1987 годзе Сьцефаніда Апалінараўна вырашыла пайсьці на пеньсію. Налічылі ёй 52 рублі і 74 капейкі. На сваё няшчасьце палічыла жанчына, што зарабіла яна за гады працы трохі больш ды лайшла высьвятляць, што да чаго. І высьветлілася, што налічылі ёй пеньсію як калгасьніцы, хоць усё жыцьцё яна працавала на вытворчасьці. Калі ж жанчына запатрабавала "вытворчую" пеньсію, то засталася ўвогуле без нічога: 52 рублі 74 капейкі забралі, а ўзамен нічога не далі. Чыноўнікі вынайшлі, што ёй не хапае стажу (налічыўшы ўсяго 19 гадоў, 3 месяцы і 22 дні), каб выйсьці на пеньсію па старасьці. На калгасную, аказваецца, хапала, хоць у калгасе сп.Гнідко не працавала ні дня, а на крыху большую - "вытворчую" - ужо не хапае!

Жанчыне сталага ўжо ўзросту прапанавалі дапрацаваць неабходны стаж у калгасе, каб пасьля ізноў жа налічыць пеньсію як калгасьніцы. Але Сьцефаніда Апалінараўна на гэты зьдзек не пайшла і колькі мела сіл яшчэ, працавала на той жа меліярацыі, каб мець капейку на жыцьцё.

З праблемай працоўнага стажу сутыкнуўся і Віктар Міхайлавіч. Паколькі тэрмін скончаньня працоўнай дамовы пры прыняцьці яго на працу ў 1968 годзе ў працоўнай кніжцы не пазначаны, сп.Гнідко лічыць, што да 1990 году адпрацаваў 22 гады. Чыноўнікі, аднак, настойваюць, што рэальны стаж значна меншы. Абураны галава сям'і паабіваў парогі ўсіх былых саюзных, а пазьней беларускіх ведамстваў, марна шукаючы справядлівасьці. Паводле яго словаў, зварот у рэдакцыю "ПАГОНІ" - гэта апошні шанц знайсьці ў Беларусі праўду. Пасьля застанецца пісаць хіба што ў ААН.

Друкуючы сумную гісторыю сям'і Гнідко, якая ўжо 5 гадоў жыве без капейкі ад дзяржавы, "ПАГОНЯ" спадзяецца, што ў кіраўнікоў гарадзенскіх рай- і аблсабесаў хопіць сумленьня і розуму, каб вырашыць гэтую справу сваімі сіламі.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

## ПАШКАДАВАЛІ

**Каля 70 абураных жыхароў вуліцы Яршова ў Слоніме накіраваліся 13 жніўня да мясцовай улады, даведаўшыся, што з іх зьбіраецца дадатковая аплата за ацяпленьне ў мінулыя зімовыя месяцы.**

Сумы былі выстаўленыя "кругленькія" - па 400-500 тысяч з сям'і. Тым больш, што на працягу двух месяцаў у многіх кватэрах не было ні кроплі гарачай вады.

Старшыня гарвыканкаму Алег Лакцюшын паабяцаў вынесьці пытаньне аб дадатковай аплаце на разгляд гарвыканкаму.

І сапраўды, у мясцовай газеце зьявіўся наступны допіс: "Дырэкцыя Слонімскага вытворчага аб'яднаньня ЖКГ паведамляе, што, улічваючы цяжкае матэрыяльнае становішча гараджан, дадатковая аплата за ацяпленьне за мінулы ацяпляльны перыяд браццa нe будзе".

Слонімцы могуць уздыхнуць з палёгкай. На гэты раз улады пашкадавалі гараджан. Ці надоўга?

**Мікола РАКЕВІЧ.**

## У НАЧАЛЬНІКАЎ ІНШЫЯ КЛОПАТЫ

У Скідалі адбылося паседжаньне калегіі абласнога Камітэту па ахове прыроды, якую праводзіў Пятро Путра. Абмяркоўвалася інфармацыя аб выніках праверкі стану аховы прыроды ў горадзе Скідалі. Былі запрошаны кіраўнікі райвыканкаму і Скідальскіх прадпрыемстваў.

Большая частка нечыстотаў скідваецца ў рэчку Доўжыца, у якой зьнікла ўсё жывое. Адтуль брыдота цячэ ў Котру і Нёман. Колькі яшчэ бруду выльецца ў рэкі, пакуль скончыцца пабудова ачышчальных збудаваньняў, якая распачалася ў 1991 годзе і да гэтага часу не завершана?! На працяг работ патрабуецца 50 млрд.рублёў, але іх няма. Будаўніцтва прыпынена.

Не задавальнае і стан існуючых вадзяных сьвідравін, з якіх жыхары горада карыстаюцца пітной вадой. У занядпад прыходзіць гістарычны гарадзкі парк, які занесены у Чырвоную кнігу паркаў Беларусі. Спадар П.Путра патлумачыў, што можа выдзяліць сродкі на ўтрыманьне парку і скверу, але няма ўпэўненасьці, што грошы пойдуць менавіта на гэтыя мэты...

Бытавым сьмецьцем завалены берагі рэк Скідзелькі і Скулнкі, памы выліваюцца на асфальтаваныя вуліцы. Ніхто ня дбае пра парадак, і парушальнікам усё сыходзіць з рук.

Мясцовыя ўлады ня ў стане вырашыць усе экалагічныя праблемы самастойна. Запрошаныя на нараду прадстаўнікі міністэрстваў па прыродных рэсурсах і навакольнаму асяроддзю, сельскай гаспадаркі і жыльлёва-камунальных службаў не зьявіліся, хаця і абяцалі. Магчыма, у іх іншыя клопаты.

**Ільля БАРЫСАЎ.**

## КОШТ ПАКУТАЎ

200 тысячаў рублёў у якасьці кампенсацыі за свайго рэпрэсаванага бацьку атрымае гарадзенец Генрых Спас. У такую ж суму гарадзенская вертыкаль ацаніла і пакуты ў сталінскія часы сп.Марыі Саўчыц. Рашэньне аб выдзяленьні ім кампенсацыі было прынята на паседжаньні гарвыканкаму 21 жніўня.

**В.ДРЭМА.**

## ДАПАМОГА ДЛЯ БЕДНЫХ

Звыш тоны гуманітарнага ґрузу з нямецкай парафіі Кірхаймбландэн атрымала дабрачынная каталіцкая арганізацыя "Карытас" у Горадні. Увесь груз будзе раздадзены праз пункт выдачы гуманітарнай дапамогі "Карытас" малазабясьпечаным гараджанам.

**В.АНІМУЦКІ.**

## КВАТЭРА ДЛЯ КАМБІНАТА

**Гарадзенскі камбінат будаўнічых матэрыялаў у абласным гаспадарчым судзе адсудзіў у фірмы "Факел" кватэру N 104 у доме 8 "В" на вуліцы Болдзіна ў Горадні.**

Памянуты жылы дом быў здадзены ў ліпені 1992 году, а праз некалькі месяцаў кіраўніцтва КБМ заключыла з "Факелам" зьдзелку аб долевым будаўніцтве... ужо збудаванага дома. Праз паўтары гады, у сакавіку 1994-га, "Факел" аплаціў кошт кватэры N 104, аднак гарадзенскія ўлады "Факелу" кватэру аддаваць не сьпяшаліся. І тады "Факел" паспрабаваў абараніць свае інтарэсы ў судзе. КБМ накіраваў туды ж сустрэчны іск, у якім прасіў прызнаць зьдзелку несапраўднай.

Суд адзначыў, што зьдзелка была заключана з парушэньнем устаноўленых правілаў. Да таго ж, пасьля чатырох з паловай месяцаў пасьля скончаньня будаўніцтва. "Факелу" былі вернуты ўплочаныя ў 94-м годзе грошы з улікам інфляцыі.

**С.С.**

## НАДЗЕЯ НА "ДЫЗАЙН"

Рашэньнем гарвыканкаму частка аб'ектаў Паўночнага вайсковага гарадка г.Ліды перададзена фірме "Дызайн", якая ў якасьці платы за іх павінна весьці рэстаўрацыю лідзкага замка.

Пасьля вайны бальшавікі разьбіралі замак, каб цэглу пусьціць на будаўніцтва Дома афіцэраў.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

## ЛІДЗКІЯ ГЛУШЫЦЕЛІ ДА "МАСКВІЧОЎ"

Лідзкае АТ "Лідсельмаш" адправіў у ліпені ў Расею 4 тысячы глушыцеляў для аўтамабіля "Масквіч". У жніўні іх колькасьць павінна дасягнуць 10 тысяч. Адпрацавана вытворчасьць і жыгулёўскіх глушыцеляў, але попыт на іх пакуль слабы.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## У СУСЕДА ГОРШ

**Сродкі масавай інфармацыі абляцела паведамленьне, што першае месца ў краіне па ўраджайнасьці збожжавых займае Нясьвіжскі раён Менскай вобласьці. "ПАГОНЯ" мае магчымасьць канкрэтызаваць гэтыя зьвесткі.**

Перадавы калгас "Сноў" намалаціў па 55,3 ц з гектара, "Беларусь" -50.9, "Новае жыцьцё" і "Друцкаўшчызна" - больш за 45. Самы адсталы -"Нясьвіжскі" - сабраў па 30,1 ц з гектара. Сярэдняя ўраджайнасьць па раёне склала 40,4 ц з гектара. Для параўнаньня паведамім, што ўраджайнасьць па Гарадзенскай вобласьці вышэй, чым па Менскай, але, напрыклад, суседні з Нясьвіжскім Карэліцкі раён мае ўсяго 33,3 ц з гектара, Навагрудзкі - 28,9, а паўночны Воранаўскі - 25,4 цэнтнера.

## КАЛГАСНЫ ОРДЭН

У калгасе "Прагрэс" Іўеўскага раёну па выніках жніва лепшы камбайнёр атрымае каня. Той, хто зойме другое месца, займее цялушку, а трэці прызёр - тону збожжа. Тона, 500 і 300 кілаграмаў збожжа - прызы шафёрам адпаведна за першыя тры месцы.

Усё проста і з густам. Напэўна ніхто ня зьдзівіцца, калі які-небудзь старшыня калгасу заснуе свой калгасны ордэн з узнагароджаньнем мяшком камбікорму.

**Станіслаў СУДНІК.**

## ШКОЛЬНЫ ЗВАНОК У РУКАХ ПРЭЗІДЭНТА?

### ЦЭГЛА ЁСЬЦЬ. ШКОЛЫ НЯМА.

**Да пачатку навучальнага году засталіся лічаныя дні. Але ў Рымдзюнах Астравецкага раёну школьны званок прагучыць значна пазьней.**

Там у глухой вёсцы яшчэ ў часы СССР вырашана было збудаваць цэлы Культурны Літоўскі Цэнтр коштам, як зараз прынята лічыць, у некалькі мільёнаў даляраў. А складовай і асноўнай часткай цэнтру павінна была стаць "школа XXI стагоддзя". Мясцовыя літоўцы, якія складаюць большасьць насельніцтва, даўно дамагаліся магчымасьці вучыць дзяцей на роднай мове. Тадышнія ўлады ахвотна пайшлі насустрач, бо падобны Цэнтр добра вязаўся з мілай сэрцу чыноўніка паказной "дружбой народов". Грошай тады было шмат, і будоўля пайшла.

Потым зьнік Саюз, і скончыліся грошы. І аказалася, што Цэнтр будаваўся па-партызанску: каштарыс нікім не зацьверджаны, зямля ня выдзелена, праект не падпісаны. На будоўлі зацішша. Нават пачуліся галасы, што для Рымдзюнаў такі Цэнтр "занадта". Аднак ужо былі ўбуханы вялізныя сродкі, да таго ж пра гэты Цэнтр пасьпелі раструбіць па ўсім сьвеце. Спыніць будоўлю - і ўбытак, і канфуз. Проста скандал.

Мінулым летам літоўскі і беларускі прэм'еры, пабываўшы на месцы, дамовіліся: справу, прынамсі школу, трэба давесьці да канца. Кіраўніцкі ўрадаў паабяцалі і грошы, і ільготы, і ўвогуле...

Але сітуацыя аказалася надта заблытанай, што хуткаплынны час забралі не будаўнічыя работы, а разьбіральніцтва: хто павінен і на якіх умовах выдзяліць зямлю, за чый кошт будаваць, хто ўрэшце будзе ў гэтай хаце гаспадаром. Для чыноўнікаў - гэта будзённая і звыклая праца. А для дзяцей, якія вымушаныя былі вучыцца то ў дзіцячым садку, то ледзь не на прыватных кватэрах?

Як чакаюць людзі гэтую школу, красамоўна сьведчыць такі факт. На Першым рэспубліканскім зьезьдзе беларускіх літоўцаў было адзначана, што за ўвесь час з будоўлі не была скрадзеная ніводная цэгла! Выпадак для нашых умоваў унікальны.

Ужо вядома, што новы навучальны год у Рымдзюнах пачнецца не 1 верасьня, а ў кастрычніку. І тое, у выпадку, калі будуць грошы на завяршэньне будоўлі. Зараз старшыня абласнога аб'яднаньня літоўцаў А.Дзіргінчус дамагаецца аўдыенцыі ў Прэзідэнта Летувы. Калі спадар Бразаўскас дасьць 200 тысяч даляраў, школа, хоць са спазьненьнем, адчыніцца. Не - дык не.

Дарэчы, у гэтай школе будуць і беларускія класы. Чаму б А.Дзяргінчусу не паехаць да А.Лукашэнкі? Яму ж навошта чалавека ад справаў адцягваць? Яму ж заводы запусьціць трэба, з урадам змагацца, Канстытуцыю падпраўляць. Літоўскі прэзідэнт такімі справамі не заняты, вось няхай ён і клапоціцца пра нашу школу.

**Алесь НАРБУТ.**

## НАТХНЕНЬНЕ ПАД ІЛЬІЧОМ

Увечары 1 верасьня на плошчы Леніна ў Горадні пройдзе інфармацыйна-забаўляльная праграма, прысьвечаная пачатку новага навучальнага году. Перад гарадзенскімі школьнікамі, навучэнцамі ПТВ, студэнтамі ВНУ выступяць ўдзельнікі конкурсаў "Песьня над Нёманам", "Зорная ростань", "Усе мы родам з дзяцінства", барцы-алімпійцы і баскетбалісты "Гродна-93".

На сьвяце будуць прадстаўлены лепшыя вучні і настаўнікі мінулага году, а скончыцца ўрачыстая праграма дыскатэкай. Арганізатарам сьвята зьяўляецца адміністрацыя Ленінскага раёну Горадні.

**В.Р.**

# БЕЛАРУС — АБАРОНЦА ВАРШАВЫ

**Заслужаны настаўнік, вядомы краязнаўца і паэт Апанас Цыхун 67 гадоў таму быў сярод тых, хто першым ўступіў ў бой з фашызмам. Напярэдадні ўгодкаў пачатку II сусьветнай вайны прапануем чытачам гутарку са спадаром Цыхуном.**

***- Спадар Апанас, дзе вас напаткала вайна?***

- Перад самай вайной, у ліпені 1939 году, мяне з рэзерву прызвалі ў Польскае войска. Накіравалі ў 29 Сувальскі полк лёгкай артылерыі. Прызначылі наводчыкам гарматы. Першага верасьня, каб не патрапіць у акружэньне, наш дывізіён адыйшоў з-пад Гдыні ў Аўгустаў. Там я і атрымаў баявое хрышчэньне. Другога верасьня мы пагрузіліся ў вагоны цягніка, гарматы ўладкавалі на платформы. Каманьдзір дывізіёну капітан Шынгер загадаў мне іх ахоўваць. Пасьля абеду прыляцелі тры нямецкія бамбардзіроўшчыкі. Я пачаў страляць па іх з карабіна. Праз некалькі секунд убачыў, як ад самалёту аддзяліліся бомбы. Выбухам мяне скінула з платформы. Калі апамятаўся, то адчуў, што ўвесь твар у крыві. Маленькі адламачак прабіў шчаку.

***- Вы прымалі ўдзел у абароне Варшавы. Раскажыце, калі ласка, пра гэта.***

- З Аўгустова мы прыехалі ў Горадню. Адсюль наш полк накіравалі ў Варшаву. Варшавяне сустракалі нас з кветкамі. Людзі казалі, што прыехалі Сувальскія палкі і разаб'юць немцаў. Маю батарэю паставілі на заходняй ускраіне Варшавы. Перад гарматамі акапалася пяхота. А падыходы да нашых пазіцый былі замінаваны. Неўзабаве пачалася атака нямецкіх танкаў. Але яны не прарваліся. Два танкі засталіся і перад маёй гарматай. Тады немцы артылерыйскім агнём выбілі з акопаў пяхоту. Пасьля гэтага вораг кінуў у атаку сваіх салдатаў. Каманьдзір нашай батарэі падхарунжы Моматаў загадаў біць па немцах прамой наводкай шрапнэльлю. Пасьля некалькіх залпаў замест атакуючых было відаць толькі клубы дыму. Праз хвілін дзесяць на нас абрынуўся агонь нямецкай артылерыі. Наша гармата была разьбіта.



Нам выдалі гранаты і па два літры беньзіну супраць танкаў. На дапамогу войску пачалі прыходзіць варшавяне. Мне запомнілася дзяўчына-студэнтка, якая ваявала на перадавой разам з мужчынамі.

Мы абараняліся ў вельмі цяжкіх умовах. Нямецкая авіяцыя без перапынку бамбіла Варшаву. Увесь горад быў у агні. Падвезьці харчаваньне не было магчымасьці. Прыходзілася есьці каніну. Не хапала вады.

Але мы ўсе вытрывалі. Стаялі на сваіх месцах да канца абароны. Праз нас немцы на Варшаву не прайшлі.

***- Як склаўся ваш лёс пасьля капітуляцыі?***

- Калі 22 версьня польская сталіца капітулявала, немцы ацалелых абаронцаў пагналі ў канцлагер, ну Гуру Кальварыю. Ішлі мы ўсю ноч, тых хто адставаў, канваіры дабівалі. У лагеры пачалося сапраўднае пекла. Людзі галадалі. Кармілі нас хлебам з мякіны. Асабліва пакутлівай была адсутнасьць солі. Увесь час трэба было пераносіць зьдзекі эсэсаўцаў.

Ня памятаю дакладна, калі ўжо былі прымаразкі, Гітлер са Сталіным дамовіліся аб абмене польскіх ваеннапалонных. Тых, хто паходзіў з Беларусі, перапісалі, пасадзілі ў вагоны і прывезьлі ў Брэст. Савецкія вайскоўцы сказалі, што спачатку павязуць нас у лазьню, а потым адпусьцяць дахаты. Павязьлі нас у бок Горадні. Мы здагадаліся, што едзем зноў у лагер, але ўжо савецкі. Каля станцыі Ласосна мне ўдалося ўцячы. Прыйшоў дамоў. Жонкі не было. Яна паехала да маткі ў вёску. Я па беразе Нёмана пайшоў да сваіх і ўдала дабраўся да цешчынай хаты.

***- Як вам ўдалося пазьбегнуць арышту НКУС?***

- Пад час зьмены ўлады была неразьбярыха. Мне ўдалося прапісацца на вёсцы. А з цягам часу вярнуліся з жонкай у Горадню.

Паўстагоддзя спадар Цыхун вымушаны быў утойваць свой удзел у абароне Варшавы і знаходжаньне ў нямецкім палоне. Ведаў, што як беларускі інтэлігент знаходзіўся пад асаблівай увагай пэўных ворганаў.

Толькі ў 1990 годзе польскі ўрад узнагародзіў Апанаса Цыхуна медалём "За абарончую вайну 1939 году".

**Гутарыў Дз.КІСЕЛЬ.**

# НАШ КАЛЯНДАР

**30 жніўня**

**1841 г.** Памёр Міхал Рукевіч (155 гадоў таму), вядомы дэкабрыст, адзін з заснавальнікаў тайнага таварыства "Ваенных сяброў" (уваходзілі афіцэры і салдаты Літоўскага корпусу, шляхта і студэнцкая моладзь).

**31 жніўня**

**1832 г.** У маёнтку Шаўры (Лідзкі павет) нарадзіўся Людвік Нарбут, адзін з кіраўнікоў вызвольнага паўстаньня 1863 году.

**1 верасьня**

**1835 г.** У Вільні нарадзіўся Юзаф Каліноўскі, слынны паўстанец і паплечнік Кастуся Каліноўскага, мемуарыст.

**1853 г.** Нарадзіўся Міхал Федароўскі, знакаміты фальклярыст, этнограф, археолаг, зьбіральнік народнай творчасьці. Дзесяць гадоў жыў у маёнтку Косін (Ваўкавыскі раён).

**2 верасьня**

**1814 г.** Памёр Жан-Эмануэль Жылібер, славуты натураліст, заснавальнік Гарадзенскай медыцынскай акадэміі, анатамічнага тэатру, батанічнага саду.

**3 верасьня**

**1731 г.** У вёсцы Занкі (цяпер Сьвіслацкі раён) нарадзіўся Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч (265 гадоў таму), буйны палітычны і царкоўны дзеяч, вучоны-славіст, пісьменьнік.

**1909 г.** Быў створаны нелегальны Гарадзенскі гурток беларускай моладзі (кіраўнік - Франьцішак Грынкевіч, бібліятэкарка - Зоська Верас).

**1960 г.** У Горадні памёр Міхась Васілёк (Міхал Касьцевіч), вядомы паэт, удзельнік вызвольнага заходнебеларускага руху. Нараджэнец вёскі Баброўня (цяпер Гарадзенскі раён).

**4 верасьня**

**1859 г.** Нарадзіўся Браніслаў Эпімах-Шыпіла, знакаміты мовазнавец, выдавец, фальклярыст.

**5 верасьня**

**1840 г.** У Балванішках (на Ашмяншчыне) нарадзіўся Зыгмунт Мінейка, кіраўнік збройнага чыну ў 1863 годзе, нацыянальны герой Грэцыі, дзед Андрэаса Папандрэу.

**Падрыхтаваў Ул.ХІЛЬМАНОВІЧ.**

# БАБУЛЯ БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЫ

**"Калі а 12-й гадзіне са сьвежусенькім нумарам "Нашай Долі" я выйшаў з друкарні, сэрца ў мяне стукала ад радасьці і шчасьця за будучыню нашага дарагога дзіцяці. Прыйшоўшы ў рэдакцыю, я знайшоў там усю кампанію (выдаўцоў - В.Р.). Быў тут Ян Тукернес і Антон, Ян Луцкевіч і Цётка, і Станслаў Сымановіч - экспедытар газеты. Усе з нецярпеньнем чакалі майго прыходу й газету амаль не парвалі, выдзіраючы з рук адзін у аднаго..." Так апісаў зьяўленьне на сьвет першай беларускай газеты "Наша Доля" адзін з яе стваральнікаў Франьцішак Умястоўскі. 14 верасьня (1 верасьня паводле старога стылю) "Нашай Долі" споўніцца 90 гадоў.**

Рашэньне аб стварэньні газеты было прынята летам 1906 году на канферэнцыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Упраўленьню па справах друку ў Пецярбурзе была накіравана адносіна. У ёй паведамлялася, што новая газета будзе выдавацца па наступнай праграме: Дзеяньні ўраду; Палітычны агляд; Жыцьцё вёскі і горада; Навіны з Беларусі і з-за яе межаў; З мінулага Беларусі; Сельская гаспадарка; Медыцына; Фельетон і г.д.

"Наша Доля", "першая беларуская газета для вясковага і мястэчковага рабочага люду", выйшла ў сьвет у пятніцу 1 верасьня (паводле старога стылю) 1906 году на васьмі старонках невялікага фармату. З 30 тысячаў асобнікаў першага нумара 5 тысячаў было разаслана па вёсках. Тры тысячы ў першы ж дзень былі прададзены ў Вільні. Дзьве тысячы асобнікаў канфіскавала паліцыя, якая 2 верасьня ўчыніла ў рэдакцыі вобыск. Падставай для яго стаў зварот "Да чытацелёў", у якім гаварылася: "...Мы аб'яўляем вайну ўсім цёмным сілам, каторым дзеля карысьці сваёй вялікая выгода была трымаць васьмімільённы народ беларускі ў нядолі і паняверцы, баламуціць і дурыць яго..." Астатнія матэрыялы нумара таксама ўтрымлівалі досыць вострыя выпады супраць царскай улады. З гэтай нагоды пракурор Віленскай судовай палаты запатрабаваў забараніць выданьне. 15 верасьня выйшаў другі нумар газеты. Канфіскацыі на гэты раз удалося пазьбегнуць. Затое трэці нумар быў арыштаваны адразу пасьля выхаду з друкарні. Распачаліся і рэпрэсіі ў дачыненьні да сяброў рэдакцыі. ЦК БСДГ пастанаўляе выпусьціць адзін нумар і на гэтым выданьне спыніць. 27 верасьня чацьвёрты нумар "НД" выйшаў у сьвет і адразу ж быў арыштаваны, не дайшоўшы да чытачоў. Распачаліся доўгія судовыя працэсы супраць газеты. Усё гэта выклікала раскол у рэдакцыі. Браты Луцкевічы, Цётка, Станіслаў Сымановіч, не спадзяючыся, што газеце ўдасца выкруціцца ў судзе, бяз ведама рэдактара - выдаўца Івана Тукернеса вырашылі распачаць выданьне новага тыднёвіка - "Нашай Нівы".

Далей рэй павёў адзін Іван Тукернес. Наступны нумар газеты яму ўдалося выдаць толькі 18 лістапада. Праз тры дні віленскія газеты паведамілі пра чарговую канфіскацыю "НД". Цэнзарам не даспадобы прыйшліся



№ 1.

Наша Доля



Наш палетак.

Да чытацелёў.

матэрыялы: "Аб выбарах у Гасударственную Думу", "Сколькі стояць Рускія генералы" ды інш.

Такі ж лёс напаткаў і апошні, шосты нумар газеты, выдадзены 1 сьнежня 1906 году. Асаблівае абурэньне ўлады выклікаў артыкул "Якая будзе Дума?" Аўтар яго, між іншым, пісаў: "Ня доўга сьвяціла сонца свабоды над абяздоленым рускім гасударствам... З грязных нораў выпаўзьлі... брыдкія гады...Цяпер яны адчулі сваю сілу... хочуць патапіць у крыві асвабадзіцельны рух... Імя ўспомненых вышай гадаў - ёсьць: "Исьцинна руския людзи..."

Віленскі пракурор узбудзіў супраць Тукернеса судовую справу. 17 студзеня 1907 году рэдактар-выдавец "Нашай Долі" быў асуджаны на адзін год турмы. Выданьне газеты "Наша Доля" прысудам спынялася назаўсёды. Але друкаванае беларускае слова не загінула. 10 лістапада (паводле старога стылю) у Вільні выйшаў першы нумар "Нашай Нівы", заснаванай першымі выдаўцамі "НД".

"Дачка" перажыла сваю "маці" на дзевяць гадоў, даўшы жыцьцё цэламу шэрагу новых беларускіх выданьняў і выпеставаўшы тысячы беларусаў, якім наканавана было рабіць гісторыю Беларусі XX стагоддзя.

**Вітаўт РУДНІК.**

# НЯ ВЫСЕКЧЫ - ДЫК АБЫЛГАЦЬ!

Выканкам фракцыі па захаваньню Грамады (БСДГ) выказаў пратэст супраць спробаў абылгаць навуковую, выдавецкую і грамадзкую дзейнасьць першага Старшыні БСДГ Міхася Ткачова і яго пераемніка на пасадзе Галоўнага рэдактара Беларускай Энцыклапедыі Барыса Сачанкі. Заява выканкаму была выклікана распачатай у некаторых сродках масавай інфармацыі кампаніі па дыск рэдытацыі першых тамоў Энцыклапедыі гісторыі Беларусі і Энцыклапедычнага аднатомніка "Беларусь". Гэтыя працы былі падрыхтаваны і выдадзены менавіта Міхасём Ткачовым і Барысам Сачанкам.

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

# КРЫЖАВАНКА

**ПА ГАРЫЗАНТАЛЯХ:** 1. Удзельнік народнай барацьбы супраць іншаземных захопнікаў. 4. Славуты паэт, ураджэнец Гарадзеншчыны. 7. Назва адной з апошніх кінастужак з удзелам К.Дэнёў. 13. Адмова ад працягваньня барацьбы. 15. Месца іншага колеру на якой-небудзь паверхні. 16. Паўднёвая расьліна, якая віецца. 17. Апісаньне мора, водных шляхоў. 20. Беларуская кандытарская фабрыка. 21. Від якой-небудзь мясцовасьці. 24. У рымскай міфалогіі багіня ранішняга сьвітанку. 25. Імя аўтара п'есы "Мешчанін у дваранстве". 27. Краіна ў Азіі. 30. Аўстралійскі страўс. 31. Опера Дж.Вердзі. 32. Беларускае літаратурнае аб'яднаньне 20-х г.г. 34. Складовая частка чаго-небудзь 37. Дваранскі тытул 38. Зьбіральнік і дасьледчык беларускіх музычных твораў (шыльда з яго прозьвішчам зьмешчана на адной з цэнтральных вуліц Горадні). 39. Прыпыненьне жыцьцядзейнасьці арганізму з далейшым яе аднаўленьнем. 45. Намесьнік уладара ў старажытнай Персіі і Індыі. 46. Невялікі мех адмысловай формы. 47. Чалавек, які церпіць ад псіхічнага растройства. 52. Назва некаторых механічных прыладаў. 53. Імя беларускай сьпявачкі Камоцкай. 54. Горад у Францыі. 55. Цырымонія ўскладаньня кароны на манарха.

**ПА ВЕРТЫКАЛЯХ:** 2. Выпраменьваньне, якое ідзе ад некаторых целаў. 3. Рака на паўночным усходзе Францыі. 4. Старажытнае казаньне пра багоў ці герояў. 5. Перамога, жаночае імя. 6. Накапленьне чаго-небудзь (нав.) 8. Ластаногая жывёла з сямейства цюленяў. 9. Славуты італійскі майстар смычковых інструмантаў. 10. Паверхня, якая абараняе ад выпраменьваньня. 11. Адна з планет сонечнай сістэмы. 12. Малодшы каманьдзір у арміях некаторых краінаў. 14. Ветлівы беларускі зварот да мужчыны. 18. Абаронца чыіх-небудзь інтарэсаў у крымінальным працэсе ў судзе. 19. Вельмі моцны камень. 22. Сядзіба ў краінах Лацінскай Амерыкі. 23. Адна з трох буйнейшых у сьвеце рэлігій. 26. Яркае іскрыстае сьвятло. 28. Ангельская мера ўмяшчальнасьці (0,568 л). 29. Чалавек моцнага целаскладу. 31. Цьвёрды і бліскучы каштоўны камень. 33. Адно з паняцьцяў буддызму. 35. Грашовая адзінка адной з рэспублік былога СССР. 36. Невялікі горад у цэнтральнай Балгарыі. 40. Беларусі паэт, публіцыст. 41. Самы вядомы твор Томаса Мора. 42. Прылада для пераправы праз водныя перашкоды. 43. Эўрапейская назва вандроўных фокусьнікаў. 44. Злы дух, чорт. 48. Сучасны беларускі рок-гурт. 49. Курорт на ўзьбярэжжы Чорнага мора. 50. Чалавек сталага ўзросту. 51. Верхні пласт зямной кары.



**Склаў Сяргей ГРЫНЬ.**

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗЬМЕШЧАНУЮ Ў ПАПЯРЭДНІМ НУМАРЫ:**

Па гарызанталях: 7.Захаванне. 8.Драпежнік. 9.Дзяльба. 10.Сведка. 11.Плойма. 14.Нырка. 16.Патыліца. 18.Кнігаўка. 20.Трукацтва. 23.Небарака. 25.Шкумаццё. 26.Сліна. 29.Блёкат. 30.Кужаль. 31.Балагол. 32.Пакутніца. 33.Значнасць.

Па вертыкалях: 1.Закавулак. 2.Сварка. 3.Князёўна. 4.Прыбытак. 5.Седала. 6.Ліхаманка. 12.Прыватнік. 13.Выдатак. 15.Набытак. 17.Цурок. 19.Невук. 21.Пералетак. 22.Сціпласць. 14.Аселасць. 25.Шаткоўня. 27.Самота. 28.Гульня.



СПОРТ

## УСЕ НА ПРОДАЖ.

### ЦІ ЗАСТАНЕМСЯ "СА ШЧЫТОМ"?

**Нечакана ў выхадныя ў горад завіталі баскетбалісты беластоцкага клубу "Інсталь-Дойліды" (мацнейшы польскі дывізіён). Спарынгавыя сустрэчы з ім дазволілі "Гродна-93" распачаць гульнёвую падрыхтоўку да сезону.**

Цікава, што ў складзе гасьцей супраць учарашніх аднаклубнікаў гуляў Аляксей Альшэўскі. Стартавы склад гарадзенцаў выглядаў так: Васілеўка, Маклакоў, Шарко, Кец, Качан. У першым матчы гаспадары вялі ў ліку да дваццаці ачкоў, *але* ўрэшце страцілі перавагу і саступілі. Праўда, у нядзельным спатканьні чэмпіёну Беларусі ўдалося ўзяць рэванш. Між тым становішча "Гродна-93" застаецца гаротным. Некалькі месяцаў майстрам гарэхавага мяча на плошчы зарабак. Вышэйзгаданыя гульні, па ўсёй верагоднасьці, сталі апошнімі ў родным горадзе для Андрэя Васілеўкі - ён зьбіраецца падацца ў Польшчу. "На чамаданах" яшчэ два гульцы "асновы": ветэран і фактычна адзіны цэнтравы клуба Павел Грыгор'еў павінен днямі атрымаць трансфер у Катар, а Алег Гладкі яшчэ ня вызначыўся з накірункам ад'езду (хутчэй за ўсё гэта будзе бліжэйшая заходняя краіна). Так што напярэдадні чарговага нацыянальнага першынства і дэбюту ў Кубку Корача паўнавартасных гульцоў ледзь наскрэбваецца на стартавую пяцёрку. Да таго ж клуб застаўся без прэзідэнта, пайшоў у адстаўку і другі трэнер Анатоль Ханякоў. У такой сітуацыі, прынамсі, наіўна разьлічваць на паўтарэньне чэмпіёнскага посьпеху. Захаваць бы прыстойнае рэнамэ.

***

Баскетбалісткі юніёрскай зборнай Беларусі, заняўшы другое месца на кваліфікацыйным турніры ў Чэхіі, трапілі ў фінал чэмпіянату Эўропы, які пройдзе ў лiпені 1997 году ў Венгрыі.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

# НЕЗАСЛУЖАНАЯ "БАРАНКА"

**Пасьля чарговага паражэньня ў чэмпіянаце футбалісты "Нёмана" пакідалі родны стадыён без зьневажальнага сьвісту ў свой бок. 25 жніўня гарадзенцы зусім незаслужана прайгралі 0:1 "Лакаматыву-96". Гэта ж у пасьляматчавай размове з карэспандэнтам "ПАГОНІ" адзначыў нядаўні кумір футбольнай Горадні Сяргей Гурэнка.**



Яўген Савань (справа) – тры месяцы бяз гола.

Большую палову першага тайму "НЁМАН", зьнясілены траўмамі і дыскваліфікацыямі вядучых гульцоў, дэманстраваў ужо звыклы для заўзятараў беззуба-шэры футбол. Пасьля таго, як на 30-й хвіліне віцеблянін Максім Разумаў вывеў наперад гасьцей, гульня здавалася зробленай. Але ў канцоўцы тайму нечакана "выбухнуў" левы фланг гарадзенскай атакі. Артур Крыванос і Генадзь Мардас сваімі прарывамі двойчы ствараюць небясьпеку ля чужой брамы, але... Савіцкі недаравальна доўга апрацоўвае мяч, а ўдару Пятрова не хапае моцы.

Другі тайм праходзіць у амаль няспынных атаках "Нёмана". Замена слаба гуляўшых Петрашэвіча і Савіцкага на Пузыну і Сярогіна яўна дадала вастрыні на палове "Лакаматыва-96". Добрыя моманты мелі Юйко, Касюк, Пятроў (двойчы), Сярогін. Але фартуна ў гэты дзень была на баку "гасьцей"...

Пасьля сустрэчы карэспандэнту "ПАГОНІ" удалося пагутарыць з былым гульцом "Нёмана" (99 гульняў у чэмпіянаце Беларусі), а зараз - маскоўскага "Лакаматыва" **Сяргеем Гурэнкам**, які прама з цягніка завітаў на другі тайм гульні:

***- Яшчэ ўчора ты забіваў гол маскоўскаму "Тарпеда", а сёньня ўжо ў Горадні...***

- Заехаў ненадоўга адведаць бацькоўскі дом перад адборачнай гульнёй чэмпіянату сьвету Беларусь - Эстонія (сустрэча адбудзецца 31 жніўня - аўт.)

***- Як табе "Нёман" узору 1996 году?***

- Каманду даўно ня бачыў. Яна падалася мне не такой слабой, як пра яе казалі. Паражэньня сёньня "Нёман" не заслугоўваў.

***- Некаторыя беларускія футбалісты, якія гуляюць за расейскія клубы, прынялі расейскае грамадзянства...***

- Я - беларус. Навошта мне другая Радзіма?

***

**26 жніўня. I ліга**. "Абутнік" (Ліда) – "Дынама-93" (Менск) – 1:0.

**24 жніўня. II ліга**. "Камунальнік" (Слонім) – "Камунальнік" (Пінск) – 2:0.

"Тарпеда" (Жодіна) – "Кардан Флаерс" (Гродна) – 0:0.

**Вітаўт РУДНІК.**

**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

# ПЛЕНЭР ПРАВАЛІЎСЯ... ЖЫВЕ ПЛЕНЭР!

**Разрэкламаваны колькі месяцаў таму Міжнародны пленэр выяўленчага мастацтва "Каложа-96", які меў адбыцца напрыканцы жніўня ў Горадні, з трэскам праваліўся. Пракаментаваць гэты недарэчны выпадак "ПАГОНЯ" папрасіла старшыню абласнога аддзяленьня Саюзу беларускіх мастакоў Мікалая Лук'янава.**

— Міжнародны пленэр планаваўся як шырокая культурніцкая акцыя дзеля абмену думкамі і мастацкімі набыткамі творцаў з розных краін. Тым больш, што наш старажытны горад знаходзіцца на скрыжаваньні розных культур і зьяўляецца выдатным месцам для гэтага. Мастацкія творы з пленэру павінны былі даць пачатак фармаваньню калекцыі сучаснага мастацтва, якая б экспанавалася ў былым Каралеўскім замку.

***— Як вядома, быў створаны аргкамітэт на чале з мэрам Горадні Генрыхам Крупенкам, складзены каштарыс мерапрыемства, запрошаны мастакі з далёкага і блізкага замежжа. Чаму ж гэты пленэр не адбыўся?***

— Сапраўды, і гарадзенскае аддзяленьне Саюзу беларускіх мастакоў, і асабіста спадар Крупенка паклалі шмат намаганьняў, каб арганізаваць пленэр на належным узроўні. Але з Міністэрства культуры нечакана прыйшоў ліст з паведамленьнем, што ў гэтым годзе пленэр у Горадні не адбудзецца з прычыны недахопу сродкаў.

***— Ці ёсьць спадзяваньне, што гэтая міжнародная мастацкая акцыя пройдзе ў наступным годзе?***

— Ладжаньне падобных імпрэзаў — гэта найперш справа дзяржаўных структураў, якія павінны клапаціцца аб развіцьці выяўленчага мастацтва і нацыянальнай культуры. Бо на карту пастаўлены ня толькі прэстыж Горадні, але й усёй краіны. Праходзіў жа з посьпехам у нашым горадзе на пачатку 1990-х міжнародныя пленэры па скульптуры. І таму неабходна зрабіць усё магчымае, каб у 1997 годзе рэабілітавацца і годна правесьці "правалены" сёлета пленэр. Дык вось, выпраўляць памылкі і рыхтавацца да наступнай імпрэзы трэба ўжо сёньня. І запрашаць людзей да ўдзелу за 7-8 месяцаў да пачатку мерапрыемства. А то атрымліваецца, што мастакі рыхтуюцца да ўдзелу ў пленэры, пасьля за месяц зьмяняецца тэрмін і ўвогуле ўсё зрываецца. Галоўнае, што ніхто нікога ня думае перапрашаць.

**Сумны прыклад праваленага Міжнароднага мастацкага пленэру "Каложа-96" яшчэ раз пацьвярджае, што сур'ёзнае мастацтва мала хвалюе "дзеячаў ад культуры". Гэтыя "нястомныя руплівцы" мяркуюць, быццам, убухаўшы мільярды рублёў у "Славянскія базары" ды іншыя паказушныя шоў-аднадзёнкі, яны стымулююць разьвіцьцё айчыннай культуры. Але культура — не базарны фэст. Яна або ёсьць, або яе няма.**

**Людвік САРОКА.**

## "ХТО СЯДЗІЦЬ НА ГЛІНЕ, НІКОЛІ НЕ ЗАГІНЕ..."



25 жніўня ў райцэнтры Любань, што на Меншчыне, адбылося грандыёзнае сьвята ганчароў – "Гліняны звон". Ладзілі яго абласныя і мясцовыя ўлады, а таксама Беларускі саюз майстроў народнай творчасьці (старшыня праўленьня Яўген Сахута). Традыцыі ганчарнага рамяства ў рэгіёне маюць глыбокія карані - у мінулым стагоддзі гэтыя промыслы квітнелі ў вёсцы Дарасіно, дзе выраблялі разнастайны посуд.

"Гліняны звон" сабраў у Любані майстроў з усёй краіны - зьехалася каля 40 ўмельцаў. На конкурсе ганчароў пад умоўнай назвай "Ляпіць, дык ляпіць!" здабыў дыплом і гарадзенец Анатоль Рагалевіч. Сьвяточная праграма была цудоўна аздоблена выступамі фальклорных гуртоў, браў удзел нават своеасаблівы аркестр гліняных інструмантаў.

Арганізатары парупіліся ад душы, выдаўшы вершаваны праграмны буклет, адмысловыя паштоўкі, гістарычную даведку пра мястэчка. Наступны фэст, які стане традыцыйным, пройдзе ў Івянцы.

**Ладзік МАЙНІЧ.**

## ІМПАРТ БЕЗ АКЦЫЗУ

Днямі Нясьвіж наведалі сябры нямецкага песеннага аб'ядналньня "Бух фінк" і французкага філармалнічнага аркестра "Элорн". У Радзівілаўскім парку адбыўся канцэрт. Візіт замежных артыстаў наладжаны ў рамках сумеснага праекту паміж Беларусьсю і гэтымі эўрапейскімі краінамі. Пачаткам яго стала леташняя паездка групы бальнага танцу "Дуэт" менскага Палаца дзяцей і моладзі з канцэртамі па гарадах Францыі і Германіі.

Сёлетні візіт адбыўся дзякуючы сумесным намаганьням упраўленьня культуры і камітэту па справах моладзі аблвыканкаму, дабрачыннага Фонду "Будучае - дзецям", федэрацыі жанчын "За мір ва ўсім сьвеце".

**Станіслаў СУДНІК.**



## ГАРАСКОП НА ТЫДЗЕНЬ

**БАРАН (21.3-20.4)**

Выхадныя дні чакаюцца вельмі прыемнымі. Сярод тыдня больш увагі зьвярні на хатнія справы. Паклапаціся аб здароўі. Паспрабуй згуляць у латарэю - павінна пашчасьціць.

**БЫК (21.4-20.5)**

Марс, які знаходзіцца ў Тваім знаку, абяцае сур'ёзныя посьпехі ў працы. Найлепшы час, каб заняцца сваім бізнэсам. Але трэба быць асьцярожным з выдаткамі.

**БЛІЗЬНЯТЫ (21.5-21.6)**

Паспрабуй адпачыць і добра высыпайся. Глыбокі сон карысна ўплывае на самаадчуваньне. На працы будзе добрая атмасьфера. Меркурый абяцае хуткае паляпшэньне хатняга бюджэту.

**РАК (22.6-22.7)**

Нарадзіўшыхся пад гэтым знакам чакаюць дні, поўныя шчасьця, асабліва ноччу пры Месяцы. Але нельга забывацца пра прозу жыцьця. У аўторак важная сустрэча, ад якой у будучым шмат будзе залежыць.

**ЛЕЎ (23.7-23.8)**

У сераду атрымаеш нечаканую прапанову супрацоўніцтва. Згаджайся. Але прыйдзецца сур'ёзна паразмаўляць з каханым чалавекам. Ці згодзіцца ён на тваю адсутнасьць дома?

**ДЗЕВА (24.8-23.9)**

Удалы тыдзень. Адчуеш вынікі ад сваіх папярэдніх намаганьняў. У чацьвер выканаеш цяжкую адміністрацыйную справу. У нядзелю прыгатуй смачны абед. Памятай! У каханьні галоўныя ня толькі словы.

**ШАЛІ (24.9-23.10)**

Набліжаецца важны момант у тваім жыцьці. На працы чакаюць новыя абавязкі. Лепшых вынікаў даб'ешся ў супрацоўніцтве са Львом і Быком.

**СКАРПІЁН (24.10-22.11)**

Чарговы рамантычны тыдзень. Асабліва запомняцца вечары і выхадныя дні. Трэба ісьці за голасам сэрца. Каханы чалавек дапаможа справіцца з цяжкасьцямі ў працы.

**СТРАЛЕЦ (23.11-21.12)**

Расклад планет на гэтым тыдні табе не спрыяе. Лепш заняцца выпрацоўкай планаў на будучыню. Хаця й можаш паспрабаваць згуляць у латарэю.

**КАЗЯРОГ (22.12-20.1)**

Шмат посьпехаў у працы. Можаш сьмела брацца за новыя справы. Карысную дапамогу акажа асоба з-пад знака Быка. У пачуцьцях - зьменлівасьць эмоцый.

**ВАДАЛЕЙ (21.1-19.2)**

Цудоўны час для выкананьня цяжкіх спраў. Меркуры дапаможа табе ў вырашэньні праблемаў і ў прываблiваньні супрацьлеглага полу. Але ўстрымайся ад сьвяткаваньня посьпехаў.

**РЫБЫ (20.2-20.3)**

На першым плане будуць сардэчныя справы. У выніку выпадковай сустрэчы можа нарадзіцца глыбокае пачуцьцё са спадзяваньнем на ўзаемнасьць.

# ХАВАЙЦЕ ЗАПАЛКІ АД... СТАРЫХ

**Дагэтуль лічылася, што хаваць запалкі трэба ад дзяцей. Але жыцьцё і тут унесла карэктывы.**

**У нашай вобласьці кожны дзесяты пажар - ад дзіцячага свавольства. Яны ж, дзеці, складаюць прыкладна такі ж самы працэнт сярод загінуўшых у агні. Затое кожны другі, хто згарэў, - пеньсійнага ўзросту!**

...У адным доме бабулька, хворая на склероз, вырашыла згатаваць абед. Але ня печку распаліла, а разьвяла агонь на падлозе побач з печкай...

...У Горадні на вуліцы Пестрака інвалід, прыпальваючы цыгарэту ад газавай гарэлкі, атрымаў апёкі, ад якіх неўзабаве памёр...

Дзесяткі падобных, на першы погляд недарэчных выпадкаў, на самой справе - заканамернасьць. Абласная ваенізаваная пажарная служба налічыла на Гарадзеншчыне 30 тысячаў самотных старых людзей, за якімі патрэбен штодзённы догляд. А дагляду няма! У адных зусім няма блізкіх - дагэтуль даюць знаць наступствы вайны. У іншых сваякі далёка - наступствы калектывізацыі, індустрыялізацыі... Нямоглыя дзядулі і бабулькі самі паляць печкі, якія маюць шчыліны і дзіркі, карыстаюцца электрычнасьцю пры зношанай праводцы і гінуць дзесяткамі кожны год. Ды што там, кожны месяц!

***- На нашай тэрыторыі паўтары тысячы пеньсіянераў. За васьмюдзесяцю патрэбны дагляд. Ёсьць стаўка сацыяльнага работніка, але паспрабуйце знайсьці здаровага, чулага чалавека, гатовага працаваць круглыя суткі за тую зарплату, якую мы можам прапанаваць - нешта каля паўмільёна рублёў, - гаворыць старшыня Парэцкага сельсавету В.Хацян.***

Начальнік абласной пажарнай службы палкоўнік А.Гуз з гонарам гаворыць, што яго людзі самі з уласнай ініцыятывы гатовыя рамантаваць старым печкі, дымаходы. Гэта цудоўна, але ў валанцёра ёсьць толькі рукі. А дзе ён возьме вогнетрывалую цэглу?

Ва ўсім сьвеце на гэтыя мэты шчодра даюць грошы страхавыя кампаніі: гэта таньней, чым кампенсаваць страты ад пажараў. Але не ў нас. Дзяржстрах пажарным выдзяляе ўсяго 3-4% ад сваіх прыбыткаў, а патрэбна - 25-30. Больш у нас неяк не прынята. У нас прынята ўзяць, і няхай згарыць. А потым - сьпісаць на стыхію.

**Д.ЛЕВАНОВІЧ.**

## КРЫМІНАЛ

### ЗАТРЫМАЛІ "МУЗЫКАНТАЎ"

Каля вёскі Капліца Гарадзенскага раёну амапаўцы затрымалі легкавік, у салоне якога знаходзілася трое пасажыраў - так званых "сініх" - раней судзімых. Пад час дагляду багажніка міліцыя выявіла ўвагу на баян. І не дарэмна, бо ўнутры інструманта знаходзіўся пісталет з глушыцелем і дзесяць стодалярaвых фальшывак. Супраць затрыманых "музыкантаў" узбуджана крымінальная справа.

### ШТО НЯ ЗЬЕМ...

У выхадныя дні была абрабавана гарадзенская сінагога на Вялікай Траецкай. Узламаўшы замкі, злодзеі пранiклі ўнутр, скралі частку жаночай вопраткі і бляшанак са шпротамі. Ня здолеўшы, напэўна, вынесьці ўсю гуманітарную дапамогу, значную яе частку злодзеі проста параскідалі.

**Іван ДАНІЛОВІЧ.**

### МАК НА ЭКСПАРТ НЕ ПУСКАЦЬ

Ня толькі бульбу вязуць з Беларусі ў Расею. Днямі, ля вёскі Маенцы Івейскага раёну міліцыя затрымала жыхара Смаленскай вобласьці К. з чатырма кілаграмамі макавай саломкі. Зараз суд вызначыць тэрмін, праз які "старэйшы брат" вернецца на радзіму.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА
ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 597
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 72-35-61, 72-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-72-37-14 (23.00-10.00)

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў, іх меркаваньні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня:
230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 2927 Наклад 12241
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 29.08.96
Рэдактар Мікола Маркевіч